7426 АРШАНСКІ

# МАЛАДНЯК.

№ 1.

ВЫДАНЬНЕ АКРУЖКАМОЛА

ВОРША — 1925 г.

10013

XVIII
7426 (XVIII)
3ок. 1
9951

# Аршанскі МАЛАДНЯК.

Орган Аршанскае філі
Ўсебеларускага Аб'яднаньня
Поэтаў і Пісьменьнікаў
—— МАЛАДНЯК. ——

№ 1. | МАЙ (травень) | 1925

...ская государств... -5 ОКТ 1925 ...публичная библ...
Б 2445/1

## Ад рэдакцыі.

Аршанская Акруга, якая налічвае ля 70% беларусаў у склад... свайго насельніцтва, да гэтага часу ня мае пэрыодычнага (кругабежнаг...) органу на беларускай мове. Тлумачыць гэта можна не недахватам м... тар'яльных сродкаў, а неорганізаванасьцю беларускіх культурных пр... цаўнікоў, моладзі. Як першая спроба, як першая ластаўка выдаец... гэты нумар часопісі „Аршанскі Маладняк". Ад моладзі, ад настаўніцт... будзе залежыць тое, каб першы нумар ня быў апошнім.

Выяўленьне мяйсцовых пісьменьніцкіх і публіцыстычных сіл—вс... наша мэта. Адначасна з організацыяй у Воршы філіі Ўсебеларуска... Аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў Маладняк,—якая ў першую чар... прыступае да падліку творчых адзінак у акрузе, часопісь, як орг... філіі, зьявіцца тым асяродкам, які будзе пашыраць і выяўляць наш... дасягненьні на культурным фронце.

Паколькі часпісь зьяўляецца органам літаратурнага об'яднан... мы будзем праводзіць на сваіх старонках рашучае змаганьне з і... алістычнымі, а таксама мяшчанска-ўласьніцкімі тэндэнцыямі ў белару... кай літаратуры.

Спадзяёмся пры гэтым, што партыя і комсамол будуць рабіць н... пры гэтым маральную дапамогу, вылучаючы сваіх лепшых сяброў ... лік нашых супрацоўнікаў.

□ □ □

# Чарговыя задачы.

## (Да організацыі Аршанскай філіі Маладняка).

У аднэй з рэзолюцый Пленума ЦБ Маладняка, гаворыцца:

„Маладняк мае адну мэту: служыць справе рэволюцыі, справе ...амогі пролетарыяту і сялянства, змагацца з усімі ворагамі рево... ...цыі сродкамі беларускай мастацкай літаратуры для пабудаваньня ...цыялістычнага ладу жыцьця“.

Зразумела, што гэтае змаганьне магчыма праводзіць толькі шля...м аб'яднаньня ўсіх літаратурных сіл пролетарска-сялянскае клясы на ...зінай ідэолёгічнай аснове, у шчыльнай сувязі з рабоча-сялянскімі масамі.

Моладзь нашае Рэспублікі, організаваная Комсамолам і піонэрамі, ...хтуецца прыняць удзел, а часткаю і ўжо прыймае, у політычна-...ономічным будаўніцтве. Ня можна спускаць з вока і працу ў галіне ...зьвіцьця і пашырэньня культуры ўваўсіх яе праявах—трэба рых...вацца да гэтага.

Маладняк, які зьяўляецца фактычна маладняком беларускае куль...ры, ставіць пытаньне ясна і адчынена:

Ажыцьцяўленьне ідэй матар'ялізму, Марксызму і Ленінізму ў ма...ацкай творчасьці—вось наша мэта.

Усе поэты, пісьменьнікі, мастакі выяўленчага мастацтва, компазы...ры і г. д. якія спагадаюць нашай мэце і цалком далучаюцца да яе—...ымаюцца ў нашы шэрагі

Але ня ўсе яны жывуць у Менску *). Цяжка кіраваць працаю ў ...кругох. Дзеля гэтага і ўтвараюцца філіі Маладняка ў іншых гарадох ...еларусі, а таксама за яе межамі. Да гэтага часу утвораны наступныя ...іліі: у Менску, Маскве, Гомлі, Магілёве. Бабруйску, Вітэбску, Полацку, ...лімавічах, Барысаве і, гэтымі днямі, у нас, у Воршы.

Перад нашай філіяй, а таксама, перад тымі літаратурна-мастац...імі гурткамі імені Маладняка, якія будуць утварацца на раёнах і ...ры школах нашае акругі, паўстае шэраг задач.

Першая і аснаўная—зьбіраньне і аб'яднаньне творча-мастацкіх сіл. ...лучаныя ў гурткі, мы зможам разьвярнуць сама крытыку, зможам вы...оўвацца самі і выхоўваць сваіх таварышоў па працы ў напрамку ус...рыняцьця пролетарскае ідэолёгіі і ажыцьцяўленьня яе ў творчасьці.

Утварэньне часопісі, якая, магчыма, стане кругабежнай—месячнай—дазволіць выяўляць нашы дасягненьні і аддаваць іх на суд працоў...ных мас, рабоча-сялянскай моладзі.

Карыстаючыся нашымі творамі, а таксама творамі іншых малад...някоўцаў, моладзь будзе пашыраць сваю літаратурную сьвядомасьць, будзе трымаць сувязь з культурным жыцьцём.

Дасягнуть гэта можна як шляхам пашырэньня друкаваных тво...раў маладнякоўцаў, таксама і наладжваньнем літаратурна—мастацкіх вечароў у школах, клюбах, хатах чытальнях і г. д.

*) Бюлетэнь Пленуму ЦБ Маладняка 21—23 сакавіка 1925 г.

Другая задача ня менш важная—аб‘яднаньне іншых мастацкіх сіл ля Маладняка. Утварэньне хораў, выступленьні хораў перад рабочымі і сялянамі зробяць сваю справу, дазволяць правесьці час саўпраўды ў культурных абставінах.

Патрэба ў гэтым найбольш адчуваецца ў нашы дні, калі, як заўважыў і наш сатырык Крапіва ў сваім вершы, на гарады і мястэчкі наяжджаюць уселякія фокусьнікі, „шпагаглытацелі“, ад якіх працоўным карысьці вельмі мала.

Будзем спадзявацца, што Аршанская філія Маладняка, карыстаючыся опытам усяго аб‘яднаньня, здолее дасягнуць многага ў сваёй працы.

*Ганна Аршыца.*

□ □ □

# Янку Купалу.

*...Каб вы пелі, ня сьціхалі*
*ў радасьці і ў горы...*

*Янка Купала.*

Ня пісаў юбілейных я вершаў
а-ні разу яшчэ дагэтуль.
Юбілей такі у нас першы,
дык вітаньне поэта поэту.

Гляну, гляну—мастацкае Слова
ты узьвёў на нязмерныя высі.
Сам стаіш як асілак—волат,
пэўна з працы сваёй задзівіўся.

Шалясьцела калісьці нясьмела,
пачынала жалейка. Годзе!
Цяпер—пяруном загрымела
і назову язык ня знойдзе.

Ты аддзін, ад усіх найвялікшы,
маладых гадаваў сваёй песьняй.
Я стаю, галаву схіліўшы
з абяцаньнем завет твой зьдзейсьніць.

Дваццаць год працягнулася варта
і цяпер—шлях жыцьця праглядаеш.
Варта жыць і змагацца варта,
калі песьня, твая маладая.

Ня пісаў юбілейных я вершаў
а-ні разу яшчэ дагэтуль.
Юбілей такі у нас першы,
дык вітаньне поэта поэту.

Ул. Дубоўка.

Ворша, травень, 25 г.

□ □ □

## УСЬМІХАЮЧЫСЯ СОНЦУ Ў ВОЧЫ.

Запазьнілася, заспалася дзяўчына
Пасьля песьні майскай запаўночы
На паранкі ў поле гналася з скацінай,
Усьміхаючыся сонцу ў вочы.

Як суніца на прыгорку чырванела,
А у думках песьня не дапета
Як зазналася, скахалася чым мела —
І цяпер салодыччу ўсё гэта.

Уздымаюцца пад вышыўкаю грудзі,
Вецер вусны цалаваць ахвочы;
У павабнай постаці нарок марудзе,
Усьміхаючыся сонцу ў вочы.

*Я. Сявец.*

□ □ □

## Ня будзь горшай!

Дрэмле Ворша, дрэмле,
Спусьціўшы нос у зямлю
Культурнае жыцьцё ўзбагацілі
За апошні час,
(Вось выхаваньне мас!)
Тут толькі шпагаглытацелі
Ды „офіцыальные Ленінградскіе лектара“,
Яны ж і „поэты“,
Затое—ніводнай газэты.
А пара ўжо, пара
І табе, Ворша,
Ня быць за ўсіх горшай,
Не канфузіць нашу рэспубліку,
Забаўляючы “публіку“
Шпагаглытаньнем,
Схамянуцца ад сну
І, адчуўшы вясну,
Разгарнуцца тут творчаю шыр‘ю
І тагды табе наша шчырае
Маладнякоўскае прывітаньне.

*Крапіва.*

□ □ □

# ВЕРАЦЁНЫ.

## 1. Перад пачаткам восені.

— Пінька, куды ты гэта выбраўся? Каля хойнікаў, казалі, балахоўцы швэндаюцца...

— Э, Грыгорка, што тыя балахоўцы, калі мае дзеці каторы дзень кавалка хлеба ня бачылі? Паеду, можа зараблю трошкі...

— Ня ехаў бы ты лепш, Пінячка!

Стары Грыгор, выкрасіўшы агню на цэру *) і распаліўшы люльку, пацёгся ў бярэзьнік, цёпкаючыся па мокрай сенажаці, а Пінька, ідучы каля возу, у другі бок.

Ён уехаў у лес. Восень убрала дрэвы ў розныя колеры. Бяроза шамацела лістамі сьветла-жоўтымі, як залатымі. Сора, калі яна была дзяўчынай, насіла нажутку якраз гэткага колеру. . А яе косы блішчэлі на сонцы таксама, як гэтыя кляновыя лісты: амаль чырвоныя, з зялёнымі адценьнямі. .

Ой, колькі падноскаў патаптаў з таго часу стары Пінька... Га!і Стары... Хто-б гэта самае вымавіў дваццаць пяць гадоў раней, кал Пінька хадзіў просты, як малады ясень...

А ў шабас... Сонца зьнікла... Змрок, як бровы маладой дзяўчыны спусьціўся над зямлёй.. Толькі ў лагчынах за мястэчкам туман разаслаўся, быццам ягова бараду сваю распусьціў і сярдуе...

Пінька выходзіць... З ім і Бэрка, і Моўша... А на сустрач, з дзяўчатамі—яна, Сора!

— Ой!..

Конь натаропіўся, чакаючы пугі. Але Пінька больш ня войкаў. Думкі яго перайшлі назад, у мястэчка.

— Казаў я Соры, няхай сходзіць да Бэркі, пазычыць з хунт бульбачкі... Ен жа багатыр.. А калісьці разам гулялі, сябравалі...

— Стой! Ня кратайся!

Конь сьцябануў вушмі, глянуў назад, на гаспадара, і стаў. Стаяў і Пінька. Уцякаць? Куды? Яго старыя ногі далёка не панясуць... Эх ты Сора, мае дробныя дзеткі...

— Што вязеш? — і пяць узброенных хлапчынаў падыйшло да возу.

— Паночкі... Цьвячкі... Верацёнцы... Хлеба ні кавалка...

— А! Ты комуністых колькі напладзіў? Біце яго, арлы!..

„Арлы“ ўжо самі нецярпліва паглядалі на ахвяру...

Білі памалу, са смакам. Адзін пасьпеў вырваць жыўцом пэйсы. Каля левага вуха закапала кроў. Гэта паддало пэнду. Білі прыкладамі Ляскалі затворы. Бражджалі штыхі. Косьці старыя бражджалі...

Першы „арол“ пароўся тым часам у вазе.. Лінейка... Шкло... кавалачкі шкла нават... Хунты два цьвякоў... Верацёны... з паўкапы верацёнаў... І больш—нічога...

---

*) Трут к огниву.

Аддзін з бандытаў, высокі, з хустачкай каля шыі, парkануў старога штыхом. Кроў сьвіснула крыніцай.

— Э, чорт, навошта ты? Яшчэ здохнець хутка. . Не дасі і нацешыцца...

І бандыта ў жоўтых ботах і паўкажушыку уткнуў у рану верацяно, тупым канцом. Гэта падабалася. Як відзіш старога спаролі штыхамі і паўкапы верацён ашчэцілася на яго старых, скатаваных рэбрах.

Ён ужо не стагнаў... Ён ужо не прасіўся... Ропа [1]) на вуснах, адчыненыя вочы дакорна пазіралі на ліхіх людзей.. І промень сонца прарваўшыся праз кляновае гальлё, ўсё роўна як жычковым соцягам асьвяціў яго худы, са скудлачанай барадой твар...

Конь шчыпаў траву і скоса паглядаў на рассыпаныя па дароз цьвякі, але ён не пачуў знаемага—„но!“..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыгожа на Палесьсі перад пачаткам восені ах, як прыгожа Дрэвы стаяць быццам сумысьля ўвабраныя ў жоўтыя, лілёвыя, бурдовыя, пурпуравыя шаты... Птушкі лётаюць з куста на куст і цяжка скеміць: лісьціну вецер панёс, ці крыльле птушку...

І ціха...

Зацыркае [3]) ўдод ці сівакрак і ізноў—ціш...

Можа здацца, што гэта—могілкі.

## Кукавала зязюля ў садочку...

— Дачушка! Ды што табе Марыля Сымонава? У яе і бацька яшчэ як баравік, і браты—як тыя асілкі. Надоечы іду каля лазьні, а яны—пруць у двох камель сасновы... На плячох, дачушка! Як глянула я—дык аж паражагналася...

Нячыстая сіла! Конь добры часам на гару ня ўсьцягне, а яны пруць!

— Вось табе і зарабляюць. І там, і там. Бацька дома гаспадарыць, а яны на заработкі... Вось табе і Марыля Сымонава! Выбяліцца, выстраіцца, косы расчэша да і на сяло. У яе галава не забаліць. У яе і калаўрот добры... У яе і шпулячкі кляновыя... У яе і верацёны маляваныя...

— А наша жыцьцё—гаротнае. Ці жыў, ці памёр Пятрусёк, а мы ў дваёх качаемся. І грады прапалі суседу, што жыта прывязе, і памалаці суседу, што жыта засее... Дзе ж тут наш і заробак?

Калаўроты сакаталі, сьпяшаліся. Дачка прала кужаль, а маці пачаскі. Паправіць лучыну, пасьлініць пальцы і зноў углядаецца ў нітку. Усе жыцьцё сьпісана на гэтай нітцы..,

Гады маладзенькія, дзянькі далёкія... Усяго хватала ў бацькоў.. і конікі, і кароўкі... А выйдзе на сяло, узьдзеўшы кашулю вышываную... Ды выйдзе нябошчык Пятрусь...

... Ой, да ты каліниця,<br>Ой, да ты маліниця...

[1]) Перадсьмяротная пена.

[2]) Працяжны рэзкі крык, („цурком“).

— Мама, чаго ты?

Маці падымае галаву, глядзіць перш на шпульку, потым на прасьніцу. Затым ужо пытае: „Чаго-ж ты дачухна?“.

— Ды ты як сьпіш, усё роўна, матуля...

— А хто ж яго ведае? Мо і сапраўды спала яна? Мо і Пятрусь—гэта ў сне сьніцца. . Мо і кашуля вышываная—дробнымі зорачкамі, а на рукавах—васількамі, мо й гэта сон?

Глянула на свае пальцы—чорныя, панoданыя... Вось вялікі ня гнецца—сярпом парэзала, жаць вучылася... На мізінцы пазнохаць зьбіты —гэта захлудзіла гной трасучы у графа Тышкевіча, так і зьлез. Сярэдні з гузачком на суставе... Не, гэта ня сон!—

... Кукавала зязюля ў садочку,
Прылажыўшы галоўку да лісточка.

— Мама, матуля!

— Га? Верацёны? Куплю, дачушка, куплю... Есьць у мяне залатовак некалькі. Думала табе й сабе па хустачцы купіць. Але ж на хустачкі—прыдбаем. Прададзём што небудзь...

Круціць вецер, круціць... Дрэвы стогнуць, сьцены старыя стогнуць, маці старая вохае—стогне...

І лучына пагасла... Сьпіць Ганулячка маладая, сьпіць... І сьняцца ёй верацёны—тачоныя, ясянёвыя, прыгожымі кружочкамі размалеванныя ..

## 3. Калакалуша[1]) цьвіла...

... Вясна-ж бывае кожны год, але гэта была нейкая асобная вясна.. Дрэвы зелянелі, калакалуша цьвіла, бельлю засьцілала дзядзінец... А вечарам—ад зямлі аж пара йшла... Возьмешся за галаву—нялюцкая нейкая. Быццам хто ўлез туды, ды ў віскі таўчэ, таўчэ .. Вады прынясеш падлогу подмяцеш, талерлі памыеш—ня тое каб ухадзілася, а млосьць нейкая... Ляжаш, выпрастаешся—наводля[2]) лёгкая—лёгкая сударга праз ногі ходзіць... Дрыжыкі па плячох... Нават пот ад шыі цурочкам цененькім... Пачоўнасьць[3]) рыхтык у лазьні разпарылася летам, ды на паветра сьцюдзёнае голая вышла...

А гэты Андрэй... Цяпер як падумаю—ну што ў ім такога? Малы ня здатны. Вочы як у сама. Здаецца—ходзіць і сьпіць...

— Жанюся, казаў. Гаспадыняй будзеш...
А што ж я? Памыйніца, папіхачка...
А калакалуша цьвіла...
Вадарыла...
Грудзі сьціскала...
Дух зацінала...
Цьвіла...
Ах!..

---

1) Черомуха.

2) ощущение.

3) вроде.

Грамадзянка! Вас вінавацяць у тым, што вы загубілі своё дзіцяне... Што вы скажаце?

— Судзьдзячкі, добранькія... Што ж я? Маладая... Зграшыла... Куды ж дзецца? Баялася, гаспадыня пазнае, прагоніць. Занесла ў склеп... Думала—пайду да радні якой... У ногі буду кланяцца... Возьмуць падтрымаюць... А яно—крычыць. Вядома—сьцюдзена, вохка... Дык што ж.. Хацела ўдушыць, але ніяк не асьмелілася... Верацяно... Ўзяла ды ў галоўку... Рабеце што хочаце, людцы добранькія...

— На падставе артыкулу крымінальнага кодэксу і г. д...

## 4. Ну што ж!...

Б. С. С. Р.
Народны Комісарыят
АСЬВЕТЫ
3 лютага 1925 г.
№ 000.
Менск, Пляц Волі
тэл. № 2-21.

**Тов. Пацуку.**

НКА БССР поведамляе Вас, што Вы назначаны загадчыкам Аршанскага Акруговага Музэю. Прапануецца прыняць пасаду не пазьней 15-га лютага г./г., з наступным надасланьнем акту прыёму ў Аршанскае Акрана, а адпісу ў кіраўніцтва справамі НКА.

*Нам. Наркома (подпіс)*

*Галоўны Інспектар па справах Навуковых Установ (подпіс)*

Ї музэй прыняты, і акты адасланы, а паперка ляжыць на стале ў новага загадчыка. Запаліць ён папяроску, заложыць нага-на-нагу і лятуціць...

Що-ж, музэй... Праўда, не аб тым думаў, калі канчаў унівэрсытэт, але-ж... Дзе мяжа—граніца для думак маладых? Добра й музэй...

Э, чорт! Як жа я не агледзіўся раней? На паперцы няма подпісу самога кіраўніка справамі. Пэўна нешта вялікае ў лесе здохне! Як жа ш... Ведаў я аднаго такога кіраўніка... Пасадзілі яго на пасаду галоўнага архіваруса... Няма на чым падпісвацца! Прыходзіць гэны самы зубр да сэкратара ўстановы і скардзіцца на гэдкае безгалоўе. Думалі, думалі, няма дзе падпісвацца! Ён маліцца, ён прасіцца: даражэнячкі, родненькі: Я хоць дзе нібудзь з боку, з боку... А загадчык установы, злы такі дзядзя, і загрымі: даць яму аркушаў дваццать чыстай паперы, няхай падпісваецца...

Аматары некаторыя кіраўнікі падпісвацца... Як закруціць, як заверціць—дык не ўразумееш: ці то муха напэцкала, ці мыш, памачыўшы хвост у раўгеню, прабегла...

Так .. перагаса з імі... Аб чым жа я?
А! Добра і музэй...
Зьбяру цікавыя рэчы...
Завяду парадкі...

Трэба будзе сказаць Праньцісю, каб кожную суботу галіўся. А то усёж нядобра неяк...

Будзе музэй—вялікі, вялікі...
Чаго толькі ў ім ня будзе?
Што там Менск, што Масква!
Будуць з Парыжу, з-за граніцы прыязджаць.
— А мусье Пацук?
А місьцер Пацук?
А гер Пацук?

Вельмі прыемна, вельмі прыемна!... Ці не дазволіце агледзіць музэй, сфатаграфаваць некаторыя рэчы... У вас, казалі есьць цікавыя алгацыты...

А я ўстану так з фасонам, трошкі кашляну (даволі выяўляць беларускую пакорлівасьць!) і скажу: будзьце ласкавы!.. Ясна, трэба будзе наглядаць. А то—ведаем мы гэтых заграні́чнікаў. Чужую жонку адаб'е. А аб алгацытах і гугаркі няма: у кішэнь пакладзе і сьвішчы тагды...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Таварыш Пацук! Ці можна вас патурбаваць?
— А што?
— Ды вось аддзел быту спарадкавала, гляньце, ці добра?

Прайшоў малады загадчык за сваёй памочніцай. Як ішоў думаў: чаму ў яе на шыі валасы так і ўюцца, так і ўюцца. Нават колер трошкі, накшы, чым у іншых...

— Так, добра. Зусім нават добра. Толькі вось кабета стаіць рукі разставіўшы, а ў руках нічога.

Я і сама думала, але няма нічога такога...

Стары Праньцісь кашлянуў.

— Дазвольце, таварыш загаднік! Трэба верацяно ёй у рукі пакласьці. Як раз бабская справа...

— Верацяно? Ну што ж!

І з гэтага часу гіпсавая фігура ў музэі адтрымала ў рукі верацяно.

Бібліятэка імя В. І. Леніна

# Янка Купала і Маладняк.

## (Да 20-гадовавага юбілею, 15/v-1905—15/v-1925)

У той час, калі ўсе праявы беларускага культурнага жыцьця душылася польскімі панамі і расейскімі чыноўнікамі, калі беларускі народ знаходзіўся ў эканамічным заняпадзе, калі, здаецца, ня было а-ніякай надзеі на зьнішчаньне цяжкага становішча,—прагучэй голас нашага вялікага поэты:

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык,
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык! 1)

Не у панскім палацы радзіўся Янка Купала (сапраўднае прозьвішча—Луцэвіч), не ў гімназіях і пансіонах атрымоўваў сваю эдукацыю — на бровары, ля машыны пачаў ён складаць свае першыя песьні.

Песьні гэтыя, якія ўжо ў пачатку сьведчылі аб велічы таленту поэты пашыраліся разам з газетай „Наша ніва“ між працоўнага сялянства, інтэлігэнцыі. Тады, калі беларускі сялянін ня ведаў нават імя свайго, завучыся „тутэйшымі“; калі інтэлігенцыя, выходячы з вёскі, накіроўвалася або на Заход, або на Ўсход, Янка Купала ясна паставіў пытаньне:

Вы ня зломкі, вы ня зноскі
Вы народ магучы:
Ваша панства — вашы вёскі,
Пан ваш — труд жывучы 2)

Толькі ў хаўрусе з працоўнымі масамі, толькі ў хаўрусе з працаю мысьліў ён вызваленьне Беларусі і беларускае культуры з пад уціску, да чаго і пачаў заклікаць:

Расьпусьцеце сваё крыльле
Як і ўсе народы.
Рухне крыўда, праўда ўстане,
Ворагаў адстраша... 3)

Але для вызваленьня патрэбна быць організаваная сіла. Ці ёсьць яна?

Так камень не ляжа, як змора паданьня
Лягла ад мяжы, да мяжы.
З надзеяй, што нават і думку змаганьня
„Забраны край“ вырве з душы. 4)

---

1) Першы верш Янкі Купалы, газэта „С.-З. Край № 746, 15/v-05 г.

2) Шляхам Жыцьця, ст. 6.

3) Там-жа, ст. 7.

4) „ ст. 45.

Сялянства хвалюецца, але маўчыць. „Сыны зямлі роднай чужыя палеткі ў чужую карысьць засяюць". А ў той самы час „на родных папарах галодныя дзеткі чужую жывёлу пасуць". [1])

Трэба абуджаць народ, трэба організоўваць сілы. Зброя поэта, яго трыбуна—мастацкае слова.

Так і хочацца заўсёды
Песьню вечную каваць;
Добрай доляй, дзіўнай казкай
Сны палошыць з хат нямых,
Пацяшаці сонца ласкай
І старых і маладых;
Зваці, клікаць на пакосы
На нязьмераны прастор. [2]

Але—хаты, „нямыя". Поэта пачынае думаць аб стварэньні кадраў актывістаў—адраджэнцаў, якія будуць пашыраць працу. Зразумела, што ўся яго надзея на маладняк, на маладыя сілы. —

Дзе вы, хлопцы непакорныя,
Дзе вы з песьняй удалою,
Як на поле, на прасторнае
Выхадзілі грамадою?
Ці пашлі вы у далёкую
У старонку у чужую... [3])

Чым можна спыніць гэты процэс чым аб'ядняць маладых працаўнікоў? Родная мова па думцы поэты зробіць вялікую справу. Мова, слова зжылося з беларусам з дзяцінства. —

Ой, ня вырваць з сэрца цябе, наша слова!
Ой, ня ўзяць ніякім сховам ды аковам,
Як бяруць матулю у малой дзяціны,
Як бяруць у бацькі апошняга сына. [4])
Яго не ўзяць, як бяруць вынік працы рук мазалістых. —
Як жыло ты з намі — будзеш вечна жыці,
Грамадой мільёнаў з сьветам гаманіці. [5])

Далей і далей. Поэта не спыняецца на гэтым. Поэта будзіць моладзь, заклікае — безупынна.

За праўду, шчасьце, за лепшую долю
Вазьміся мой дружа, пастой!
У крыўду не дайся, свайго дабівайся
Адвага хай будзе з табой. [6])

---

[1]) Шляхам Жыцьця, ст. 44.
[2]) „ „ ст. 5.
[3]) „ „ ст. 49.
[4]) „ „ ст. 145.
[5]) „ „ ст. 146.
[6]) „ „ ст. 20.

Хай не палохаюць абставіны, хай не палохае абваколеньне.—

Ня пужайся, што здрадныя хмары
Неба ўслалі з канца да канца,
Што свае цемната ўнясла чары,
Закружыўся груган над папарам:
Яшчэ прыйдзе вясна! [1])

Хай не палохаюць гэтыя хмары, бо разьвеем—разгонім іх—мы. Трэба толькі быць на варце.—

Ня уздыхай, не бядуй, брат замучаны мой!
І жыцьця не кляні, не кляні,
Думу песьню запей, стань адважнай ступой,
Яшчэ раз: не засьні, не засьні.
Хоць за хмараю хмара плыве чарадой,
Сільней хмар—гэта сонца агні
І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой,
Яшчэ раз не засьні, не засьні. [2])

На гэтым не спыняецца заклік да сонца. Ён праходзіць праз шмат вершаў Янкі Купалы, найбольш тыповы з якіх—агульна вядомы—„Гэй наперад“ [3])

. . . . . . І не стане больш пакуса
Першых—лепшых з боку браць
Селяніна—беларуса
Вечна ў лапці абуваць
Дык наперад, покі сэрца
Б‘ецца, рвецца на прастор.
Годзе млеці ў паняверцы,
Гэй да сонца! Гэй да зор!

Якое такое сонца бачыў Я. Купала, калі заклікаў да яго Беларусь? Адказ знаходзім у „Песьні сонцу“, дзе поэта моліцца перад ім за народ свой, за край, узвышаючыся да пафосу правадыра працоўных мас. Сонца ўжо ня толькі сонца, але гэта Рэнэсанс—Адраджэньне, які мы заклікаем „казкай вякоў блізкіх ці далёкіх“, нашым мінулым.—

Як у сьвята купальскае, сонца,
Свой жывы аднаўляеш паглёд,
Аднаві славу нашай старонцы,
Аднаві яе суммы народ... [4])

---

[1]) Шляхам Жыцьця, ст. 19.
[2]) „ „ ст. 18.
[3]) „ „ ст. 19.
[4]) „ „ ст. 12.

Так, аднаві я е сумны народ. Дай гэтаму народу сьмеласьць, будзёразьць, рызыку. Бо становішча незвычайна цяжкое.—

Сярод разьюшаных сатрапаў,
Паганы зладзіўшы хаўрус,
Свае таргуюць і чужыя,
Табой, няшчасны Беларус...

Поэта зьвяртаецца да народу.—

Будзь сьмелым! Магутна ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад другіх вядучы!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Будзь сьмелым, як вецер, як воля сама!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Будзь сьмелым, як бура, што крышыць дубы...[2])

Бура, навальніца павінна прынесьці працоўнаму народу экономічнае і палітычнае вызваленьне. Тагды ён здолее заняцца і разьвіцьцём сваёй уласнай культуры. Панскія ж культуры, якія сілай навязваліся або з заходу, або з усходу—не патрэбны.

Годзе заходней ці ўсходней культуры!
Для Беларуса цана ім адна,
Ўсе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна.
Вашу карысьць нам і вашы заслугі
Добра ўжо скеміў таптаны народ;
Добра вядомы і путы і пугі
Песьціў якімі ваш Заход і Ўсход.
Мы не пакінем свае папялішчы,
З сьцежкі—наперад, ня пойдзем назад.
Сьмела сдрузгочам старыя бажышчы,
Новым законам збудуем пасад [3])

(1912 год, 16/XI)

І вось, падышоў гэты час, калі старыя бажышчы працоўны народ стаптаў пад ногі—прышоў Вялікі Кастрычнік.

Янка Купала, які ўсё жыцьцё змагаўся за вызваленьне сярмяжнай Беларусі, пачынае сьпяваць на новы лад. Сваімі ранейшымі творамі ён зрабіў нязвычайна вялікую справу, як ніводзін больш Беларускі поэт: абудзіў, згуртаваў моладзь, якая, змагаўшыся ў шэрагах Чырвонай Арміі за замацаваньне, заваёваў Кастрычніка, зараз працуе над развіцьцём і пашырэньнем беларускае працоўнае культуры.

---

[1]) Спадчына, ст. 39
[2]) „ „ ст. 16
[3]) „ „ ст. 17

Яшчэ ў 1914 годзе пісаў Я. Купала моладзі:

На цябе, наша моладзь, надзея
Нашай сумнай забранай зямлі,
Твой арліны палёт цьмы развее
І запаліць веквечны агні...[1])

Гэтыя словы можна разглядаць як нейкае прадбачаньне будучыны, якое спраўдзілася. І ўжо пасьля рэвалюцыі ён дапаўняе свае ранейшыя словы, вавяртаючыся і да маладых беларускіх поэтаў, згуртаваных у Маладняку, і наогул да ўсё маладзі.—

Гэй, узвейце сваім крыльлем
Арляняты буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасьцю хаўтурнай.

У маланках пяруновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыхтуйце новых
Нячувалыя яснототы...[2])

У той час, калі некаторыя старыя пісменьнікі беларускія, замест таго, каб дапамагчы маладым беларускім поэтам і пісьменьнікам у іх творча-грамадзкай працы—заняліся пісанінай фельятонаў на маладых пісьменьнікаў, ды носяць па школах, па семілетках, дзе зачытываюць нашаму малодшаму пакаленьню; у той час, калі некаторыя старыя пісьменьнікі нашы (праўда, нікудышныя) прымушаюць сваіх дзяцей выпісвацца з піонэрскага атраду, куды яны былі запісаліся,—у той час Янка Купала зьвяртаецца да моладзі з натхнёным заклікам:

Вам на памяць Серп і Молат
Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
Ня гнуў плеч ніколі.

Каб здабытую свабоду,
Знталі,, шанавалі
І у цяжкую прыгоду
Ўсталі грознай хваляй.

Зашумелі, загудзелі,
Як віхор сусьветны,
Не праспалі у пасьцелі
Волі агняцьветнай.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Каб вы пелі, ня сьціхалі
Ў радасьці і ў горы

---

[1]) Спадчына, ст. 18

[2]) Безназоўнае, ст

Гаманілі, нібы хвалі
У бурлівым моры.

Каб шоў гоман няспыняны
Ад поля да поля
І людзей яшчэ скаваных,
Заклікаў на волю. [1])

Маладняк прыняў гэты заклік вялікага поэты. Маладняк імкнуўся і імкнецца безупынна да далейшага пашырэньня ідэй комунізму на ўсім сьвеце. Янка Купала кажа сам аб сваёй творчасьці —

Пакінем спадчыну мы для патомкаў
Інакшую ад тэй,
Што ўзялі мы ад продкаў на абломках
Гісторыі сваей.

З інакшай думкай пойдзе ў сьвет і людзі
Патомак гэны наш:
Згібацца ўжо ня будзе, і ня будзе
Піць з недапітых чаш. [2])

Маладняк жа, у сваім црывітаньні юбіляру, адказвае:

. . . Ваша песьня, узросшая паміж палыньня прынесла вялікі плён; яе „зерня чыстае, як вока“ запала ў сэрца малодшагаа пакаленьня, і ўзрасьціла бунтоўны Маладняк. Ваша песьня для Беларусі й для новых яе песьнярскіх пакаленьняў застанецца векапомнай. Дык щчырае прывітаньне вялікаму песьняру Беларусі Янку Купалу ў дзень 20-х гадовага юбілею. [1])

Так, Янка Купала застанецца векапомным на Беларусі.—

*Ул. Дубоўка.*

Ворша, 16/V 25.

[1]) Безназоўнае, ст. 25-26.
[2]) Безназоўнае, ст. 23.
[1]) Савецкая Беларусь, 15/V 25 № 107.

# Аб творчасьці Максіма Багдановіча.

*(Да 8-й гадавіны з дню сьмерці, 25/V 1917—25/V 1925 г.)*

Жыцьцё гэта безупыннае змаганьне і ў умовах акаляючай рэчавістасьці, яно ператвараецца ў запутаную сістэму грамадзянскіх узаемаадносін і ўтварае гісторыю эпохі. І ў характары творчасьці людзей мы заўсёды знойдзем больш-менш адзначаныя рысы жыцьцёвай дынамікі і ў залежнасьці ад яе выяўленьня, мы выводзім і характарыстіку самой творчасьці.

Мы ня можам жыцьцё зразумець па аднаму якому-колечы адзнаку, мы дзеля гэтага павінны узяць яго галоўныя, больш характэрныя бакі, якія ў сваім спляценьні выяўляюць перад намі істоту жыцьця.

Максіма Багдановіча прынята разглядаць як песьняра вялікай прыгожасьці й натхненьня: „У яго творчасьці ўсё-краса, прыгожасьць“. [1]) „Здаецца Максім Багдановіч і радзіўся толькі дзеля яе, бо нішто яго не цікавіла гэтак у жыцьці: ні змаганьне з жыцьцём, ні доля нядоля адных і багацьце другіх, ні жаданьне барацьбы за вялікія ідэалы ў жыцьці-нічога“ [2]) Альбо: „М. Багдановіча трэба разглядаць пераважна як песьняра чыстага мастацтва, які ўсюды старанна выходзіў сьляды вечнага хараства, каб закаваць яго ў крыштальныя формы, даступныя пачуцьцям людзкога паспольства“. [3]) Вось тая характарыстыка якую усюды можна сустрэць пры аглядзе творчасьцы Максіма Багдановіча.

Так, Максім Багдановіч, даваў зьмест сваей творчасьці ў гібкімвыкаваным з сталі, вялікай стараннасьцю, вершу. І ў сваіх дасканальных формах даў нам творы „мастацкай прыгожасьці“ але безумоўна зьмест яго твораў, агульны матыў усей яго творчасьці, не ў услаўленьні красы, як абстрактнага разуменьня.

Як надзвычайна здольны паэта, і энэргічны працаўнік на ніве беларускага аддражэньня Наша-Ніўскай пары, Багдановіч бязумоўна ня мог у сваіх творах не адбіць і ня выявіць тыя настроі, тыя імкненьні якія панавалі тады сярод беларускіх адражэнцаў, знача ня мог абмяжавацца выяўленьнем у сваей творчасьці толькі адной стацікі, а павінен быў як грунт, як аснову сваіх твораў, даць дынаміку акаляючага яго жыцьця.

І ўсе яго творы, гэта высока мастацкі, прыгожы пэрл, агульны зьмест якіх, кіпучае змаганьне ў якім і згарэў сам паэта.

Змаганьне—жыцьцё, вось аснаўная прэдпасылка к істоце творчасьці М. Багдановіча. Чалавек які ўтраціў магчымасьць змагацца, ў творах Багдановіча—чалавек мёртвы, ён ня жыве. А дзеля змаганьня

[1]) Курс Белорусоведенія—Масква 1918 г. Жылуновіч—Беларуская Літэратура.
[2]) Курс Белорусоведенія—Масква 1918 г. Жылуновіч—Беларуская Літэратура.
[3]) Выпісы з беларускай літэратуры—стр. 31

патрэбны жывыя людзі, здольныя плыць супроць агульнага цёку тага часнага жыцьця:

...„Проці цячэньня вады
Зможа толькі жывое паплыць“... [1])

хто-ж ня здолен к змаганьню, хто ня можа кінуцца супраць напор хваль, той няжыве, гэта аджўшыя людзі:

...„Хвалі-ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць“... [2])

Дрэнна ў цяжкую хвіліну згубіць надзею ў жыцыцё, згубіць вер ў свае сілы і паплыць за хвалямі ракі—як скончыўшаму сваё жыцыцё як няздольнаму к змаганьню!

У часе наша-ніўскай пары паэта бачыў як пакідалі сілы змаган цаў, як замест бадзёрай прызыўной песьні, чуліся сумныя гукі сьлязь лівага плачу, поўныя згубы усякай надзеі, поўныя сьмерці [3]) Усё ду шыла чорная рэакцыя пасля рэвалюцыйнаго часу 1905 году, і гора:

...„Хваляй шырокай як мора
Родны наш край затапіла“... [4])

І ў змаганьні, перш за усё павінна была ісьці мабілізацыя сіла у Сялянская Беларусь, бяз моцнага авангарду свайго пролетарыяту, не магла даць гэтых сілаў у тые часы з сялянства. Да і дзеля М. Багдановіча выхадцу-інтэлегенту, у сваей зазове, апорнай базай толькі і магла быць у той час беларуска-народніцкая інтэлегенцыя І ён у сваіх поклічах стараецца вярнуць яе к жыцьцю, прызваць к змаганьню:

„Кінь вечны плачь свой аб старонцы!
Ня ужо-жа цёмнай ноччу ты
Ня бачыш, што глядзіцца сонцца
Ў люстэрка—месяц залаты“... [5])

бо织 стананьне і плач адражэнцаў гэтае пары толькі імпаніруе агульным умовам жыцьця Беларусі і прадбачачы ўсю ціжар пуцявіны барацьбы паэта з усей сілай сваей натхненнай натуры кліча к змаганьню:

Рушымся брацьця, хутчэй
У бой з жыцьцем пакідаючы жах... [6])

і ведаючы, што многа жахлівых ня вытрымае гэтай бойкі, паэта папярэджываець, што сьцежка адна, змаганьне—загэтым:

...„Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах“...

---

[1]) Вянок—М. Багдановіча—Вільня 1913 г. стр. 67.

[2]) Вянок—М. Багдановіча—Вільня 1913 г. стр. 67.

[3]) Песьні прызыву к змаганьню тады толькі пачалі зараджацца, выліўшыся ў моцным акорды цэлай пліяды паэтаў і пісьменькаў апосьля кастрычнікавай пары—„Маладнякоўцаў“.

[4]) Вянок —М. Багданові Вільня 1913 г.—63 стр.

[5]) Вянок—М. Багдановіча Вільня 1913 г. стр. 65.

[6]) Вянок—М. Багдановіча Вільня 1913 г. стр. 67.

[7]) Вянок—М. Багдановіча Вільня 1913 г. стр. 67.

Побач з надзеяй на інтэлегенцыю ў паэты нейдзе глыбака ў душы, ня выяўлена выразна, а больш інтуітыўна, жывець вера ў нізы, ў масы сермяжнай Беларусі, толькі трэба іх адбудзіць к гэтаму:

...Але як устане сонца, ўраз прачнецца дух народны,
І засьвеціць ясна! [1])

А разам з гэтым паэта адчуваець часовасьць істнаваньня інтэлегенцыі як ўнеклясавай праслойкі, якая ў барацьбе павінна выбраць сабе сьцежку і па яго думцы зьліцца з тымі нізамі, з якіх яна й вышла, як хмара адарваная ад ракі, разьбітая навальніцай, павінна зноў зьліцца з ёй:

... „Загрымелі ў хмарах гулка прывітаньня
І далека буйны вецер іх панёс,
рынуліся хмары да ракі радзімай
і зьліліся з ёю ліўнем кропель-сьлёз“. [2])

Да гэтага часу, творчасьць М. Багдановча мы разглядаем на адзінаму зборнічку яго твораў „Вянок“, нялічучы некалькіх яго твораў параськіданых па нашым пэрыядычным друку.

І трэба дадаць к усяму говоранаму раней, што гэты зборнічак ня толькі зьместам сваіх некаторых твораў, але разьмеркаваньнем усяго матар‘ялу па цыклям, і яго падборам праводзіць адну аснаўную думку паэты—змаганьне, мабілізацыя сілаў.

Аснаўным цыклям зборнічка зьяўляюцца „Думы“ паэты, дзе й выяўляецца аснаўны матыў яго творчасьці. К гэтаму цыклю дадаюцца як дапаўненьне, прадуманыя, з дасканальным падборам матар‘ялу, новыя аддзелы, каб правесьці адзіную думку.

І паэта стараецца „Ў зачарованым царстве“, прыгожасьцю беларускай прыроды ў спляценьні з надзвычайна багатай народнай міфалёгіяй захапіць інтэлегенцкія паслоі, „Згукамі Бацькаўшчыны“ разбудзіць заснуўшаю сьвядомасьць.

І ня спроста паэта зазірае ў мінуўшчыну, вяртаецца к „Старой Спадчыне“. Ен хоча скарыстаць усё што можна дзеля выкананьня сваей мэты—адраджэньня, і як поэта—інтэлегента хоча біць ня толькі на розум, але й пачуцьце.

Мы зерна древния лелеем,
Мы урожай столетий жнем.
(Брюсов)

так поэта характарызуе адзін с сваіх аддзелаў[1] „Старая Спадчына“ Па яго думцы трэба скарыстоўваваць усё што можа даць ураджай і з зьвялікай здольнасьцю свае думы ўбірае ў аздобны, спляценьнем, вянок, каб зваць к жыцьцю, каб жыць.!

*М. Ганчарык.*

ВОРША.

---

[1]) Вянок—М. Багдановіча Вільня 1913 г. стр. 70.
[2]) Вянок—М. Багдановіча Вільня 1913 г. стр. 71.
[3]) Вянок М. Богдановіч—1913 Выльня стр. 90.

# ХРОНІКА.

— Гэтымі днямі ў Воршы былі адпаведны сэкратар ЦБ Маладн: Ўл. Дубоўка і сябра Маладняка, поэт-сатырык Крапіва, якія залаж Аршанскую філію Маладняка.

— У Аршанскую філію Маладняка ўвайшлі: с апраўдным сябрам Сявец, кандыдатамі т.т. Аляксейчык, Клютко, Малевіч. Адпаведным раўнікам філіі назначаны Міхась Ганчарык.

— ЦБ Маладняка ў Менску наладзіла выданьне невялічкай бібл тэчкі (кніжніцы) маладнякоўскіх твораў з тым разьлікам, каб кож кніжачка каштавала ў продажы ад 10 да 15 кап. У гэтым меся выйдуць з друку наступныя зборнічкі:

1. М. Чарот — вершы
2. Ўл. Дубоўка — поэма з Крымскага жыцьця.
3. Кузьма Чорны — апавяданьні
4. А Бабарэка — апавяданьні
5. Язэп Пушча — вершы
6. Крапіва — Асьцё (сатыры)
7. Хурсік — апавяданьні

— У чэрвені месяцы склікаецца Ўсебеларускі Маладнякоўскі зь на які запрошаны прадстаўнікі Ўкраіны, Закаўказьзя і РСФСР

— 25 траўня споўніцца 8 гадоў ад дня сьмерці беларускага по Максіма Багдановіча (пахаваны у Ялце). Інстытут Беларускае культ рыхтуе да друку акадэмічнае выданьне яго твораў, над укладань якога працуе адумысловая камісія.

— Рыхтуецца да друку другі нумар „Аршанскага Маладня Матар'ялы просьба накіроўваць на адрас філіі, Ворша, Акружкам дзеля філіі „*Маладняк*".

**Радактор: Рэдакцыйная калегія.**

